Тэлепраграма з 10 па 16 ліпеня

№ 53 (4202)

7 ліпеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## У Мінску працягвае работу 26-я штогадовая летняя сесія Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. У ёй прымаюць удзел каля 700 замежных парламентарыяў і палітыкаў з 56 краін.








З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Чаму праект Лаўрынаса Кашчунаса не прайшоў...

**Напярэдадні сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ многія думалі-гадалі: ці будзе ўсё ж прынята рэзалюцыя па Беларусі? Хто-ніхто казаў, што падрыхтаваны праект рэзалюцыі па правах чалавека ў Беларусі даволі жорсткі і яўна не спадабаецца беларускім уладам.**

**Пра тое, чаму праект рэзалюцыі па Беларусі не падтрымаў Пастаянны камітэт ПА АБСЕ, “Народнай Волі” расказаў старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька.**

– На гэтую сесію былі вынесены два праекты рэзалюцыі, якія датычаць сітуацыі ў Беларусі, – *тлумачыць Анатоль Уладзіміравіч*. – Аўтарства аднаго належыць Лаўрынасу Кашчунасу з Літвы, другога – Крысціяну Холму са Швецыі. Абодва палітыкі належаць да адной палітычнай групы – Еўрапейскай народнай партыі, з абодвума мы кантактавалі.

**– Чым адрозніваюцца іх рэзалюцыі?**

– Рэзалюцыя Кашчунаса прысвечана толькі Беларусі. А Холм зрабіў агульную рэзалюцыю па рэгіёне, у які ён уключыў не толькі Беларусь, але яшчэ і Азербайджан, і Расію. Рэзалюцыя Кашчунаса не прайшла праз Пастаянны камітэт. Кіраўнікі 57 дэлегацый краін, якія з’яўляюцца членамі Парламецкай асамблеі, падтрымалі рэзалюцыю Холма. Гэта азначае, што з павесткі дня знята дыскусія па будаўніцтве атамнай станцыі. Увагу гэтаму пытанню надаваў Кашчунас, але яго ўвогуле не ўзнімаў Холм. І толькі гэта вырашана зняць з абмеркавання. Усе астатнія пытанні, якія тычацца і выбараў, і палітычных вязняў, і свабоды слова, – гэта ўсё засталося! Таму ніякага скандалу тут няма.

Канешне, можна прагназаваць, што зараз будзе няпроста прыняць рэзалюцыю Холма, бо аўтаматычна атрымліваецца кааліцыя Беларусь–Расія–Азербайджан. Заўважу, пэўнымі структурамі былі зроблены вялікія высілкі, каб увогуле ніякай рэзалюцыі па Беларусі не было!

**– Анатоль Уладзіміравіч, а ў якасці каго вы прымаеце удзел у сесіі ПА АБСЕ?**

– Нам дапамагае Еўрапейская народная партыя, сябрамі якой мы з’яўляемся. Напрыклад, адбылася вялікая дыскусія па Беларусі з удзелам і прадстаўнікоў улады, і палітычнай апазіцыі, і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці. Выступалі Ганна Канапацкая, Алесь Бяляцкі, Міклаш Харасці, Віталь Рымашэўскі, Андрэй Бастунец, Валерый Варанецкі. Гэтую дыскусію арганізавала рабочая група па Беларусі. Мы таксама на працягу гадзіны мелі магчымасць размаўляць з дэпутатамі ПА АБСЕ. Усе нашы намаганні скіраваны на тое, каб у Беларусі адбыліся дэмакратычныя перамены.

**Паліна ПЛАТОНАВА.**

СКАЗАНА!

## Да ўсіх павінны быць адзіныя патрабаванні

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на пленарным пасяджэнні, прысвечаным урачыстаму адкрыццю ў Мінску 26-й штогадовай сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ, выступіў за распрацоўку ў рамках арганізацыі адзіных патрабаванняў па правядзенні выбараў.

«Постсавецкія рэспублікі, наколькі я помню, звярнуліся ў АБСЕ: давайце прымем статут АБСЕ (на дзіва, паважаная арганізацыя не мае свайго статута) і, калі размова ідзе аб выбарных працэсах, і яны найбольш вострыя, выклікаюць сумненні ў еўрапейскіх дзяржавах, давайце выпрацуем пералік патрабаванняў да выбарнага працэсу. І па гэтых патрабаваннях будзем прад’яўляць прэтэнзіі або адабраць той ці іншы выбарны працэс. Але пакуль у нас і гэтага няма», – падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Прэзідэнт звярнуў увагу, што асобныя міжнародныя наглядальнікі па-свойму трактуюць выбарны працэс у Беларусі, адсюль з’яўляюцца розныя патрабаванні. «Таму нам пара прыняць статутныя, асноватворныя дакументы функцыянавання нашай арганізацыі», – перакананы ён.

ЯНЫ – ПРА НАС

## ...І Трампу данеслі пра Астравецкую АЭС

І трэба ж было разгарнуць будаўніцтва атамнай станцыі на мяжы з Літвой! Вунь ужо прэзідэнт суседняй краіны Даля Грыбаўскайтэ паскардзілася на нас самому Дональду Трампу. Па яе разліках, у выпадку аварыі на гэтай станцыі пацерпяць 16 еўрапейскіх сталіц. І АЭС, і газаправод Nord Stream 2 могуць быць выкарыстаны Расіяй як прылада неканвенцыйнага шантажу.

## 135 год з дня нараджэння Вялікага песняра Янкі Купалы

...Падымайся зь нізін, сакаліна сям’я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь, маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..

ПАМЯЦЬ

## Яму было б 45 гадоў...

*Тэлеаператар Дзмітрый Завадскі бясследна знік 17 гадоў таму, 7 ліпеня 2000 года, па дарозе ў Нацыянальны аэрапорт. На той момант яму было 27 гадоў. Да гэтага часу пра яго лёс нічога не вядома.*



Чатыры разы пракуратура закрывала і аднаўляла расследаванне справы аб знікненні Дзмітрыя Завадскага.

Да гэтага часу не вядома месца пахавання цела Дзмітрыя Завадскага. Як, дарэчы, і былога старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктара Ганчара, экс-міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі, бізнесмена Анатоля Красоўскага.

У гэтым годзе Дзмітрыю Завадскаму споўнілася б 45 гадоў...

БЕЗ РЭТУШЫ



Валерый КАРБАЛЕВІЧ,
спецыяльна для “Народнай Волі”

## «Траянскі конь» на парозе,
### альбо Чым пагражае Беларусі новы расійскі законапраект аб грамадзянстве

Як вядома, у Дзяржаўнай Думе Расіі разглядаецца законапраект, які прадугледжвае новы прынцып атрымання расійскага грамадзянства. Дакумент быў унесены на разгляд першым намеснікам старшыні камітэта па справах СНД, еўразійскай інтэграцыі і сувязях з суайчыннікамі Канстанцінам Затуліным і сумна вядомай Наталляй Паклонскай. Законапраект прадугледжвае спрошчаную працэдуру набыцця расійскага грамадзянства. Яго змогуць атрымаць людзі, якія нарадзіліся ў СССР і з’яўляюцца носьбітамі рускай мовы. Акрамя таго, мяркуецца адмяніць патрабаванне аб прадастаўленні дакумента аб выхадзе з грамадзянства замежнай дзяржавы.

Чым гэта небяспечна для Беларусі?

Згаданая прапанова прызвана рэалізаваць дзве задачы: эканамічную і геапалітычную, якія цесна звязаны. Калі казаць пра эканоміку, то варта адзначыць, што пасля распаду СССР Расія перажыла буйную дэпапуляцыю. Рост насельніцтва ў краіне спыніўся з 1991 года, яно скарачаецца на некалькі сотняў тысяч чалавек штогод, смяротнасць ў 1,5 раза перавышае нараджальнасць. Прычым смяротнасць сярод расійскіх мужчын у працаздольным узросце ў 10 разоў вышэй (!!!) сярэднееўрапейскага паказчыка, а жанчын – у чатыры разы. Пры гэтым зніжаецца доля этнічных рускіх.

Дэпапуляцыя адмоўна адбілася на эканоміцы. Адчуваецца недахоп працоўных рэсурсаў, асабліва ў азіяцкай частцы Расійскай Федэрацыі.

Скарачэнне колькасці насельніцтва ў нейкай ступені стрымліваецца іміграцыяй. Расія знаходзіцца на другім месцы ў свеце (пасля ЗША) па ліку легальных і нелегальных імігрантаў. У Расіі іх больш за 13 мільёнаў чалавек (9 працэнтаў насельніцтва). Найперш у Расію прыязджаюць этнічныя рускія і рускамоўныя з постсавецкіх краін, найбольш з Цэнтральнай Азіі і Закаўказзя. На Далёкім Усходзе адбываецца маштабная кітайская міграцыя.

Паводле дадзеных Федэральнай міграцыйнай службы Расіі, на 1 студзеня 2015 года каля 470 тысяч беларусаў працавалі на тэрыторыі РФ. Думаю, насамрэч іх больш, наўрад ці міграцыйная служба фіксуе ўсіх.

У выпадку прыняцця згаданага законапраекта міграцыйная плынь у Расію павялічыцца. Прычым найперш з Украіны і Беларусі. Бо ў украінцаў і беларусаў, у адрозненні ад выхадцаў з Цэнтральнай Азіі і Закаўказзя, няма праблем з рускай мовай. Варта зазначыць, што ў першую чаргу з’едуць найбольш кваліфікаваныя работнікі, якіх не задавальняе ўзровень заробкаў у Беларусі. Такім чынам Расія імкнецца вырашыць свае эканамічныя і дэмаграфічныя праблемы за кошт суседзяў.

Калі казаць пра геапалітычныя наступствы прыняцця гэтага законапраекта, то ён, безумоўна, прывядзе да ўзмацнення кантролю Расіі над постсавецкай прасторай. Масавая раздача расійскіх пашпартоў грамадзянам былых савецкіх рэспублік стане моцным інструментам ціску на суседнія краіны.

Узгадаем гісторыю расійска-грузінскіх адносін. Расія актыўна раздавала свае пашпарты жыхарам Абхазіі і Паўднёвай Асеціі. У выніку 98 працэнтаў насельніцтва Паўднёвай Асеціі маюць расійскае грамадзянства. Гэта стала адной з падстаў вайны Расіі з Грузіяй у 2008 годзе. РФ увяла свае войскі ў Абхазію і Паўднёвую Асецію, тлумачачы тым, што, маўляў, мы абараняем расійскіх грамадзян.

Гэтаксама Расія спрабавала раздаваць свае пашпарты жыхарам Крыма яшчэ да падзей 2014 года.

Калі закон будзе прыняты, то можна не сумнявацца, значная частка насельніцтва ДНР і ЛНР атрымае расійскае грамадзянства. І гэта радыкальна памяняе сітуацыю вакол Данбаса, прывядзе да абвастрэння міжнародных адносін, можа пачацца самая сапраўдная вайна паміж Расіяй і Украінай.

Але вернемся да Беларусі. У выпадку прыняцця гэтага закона ўсім беларусам, прыехаўшым на заробкі ў Расію, пачнуць раздаваць расійскія пашпарты. Думаю, большасць іх прыме гэтую ласку. Бо гэта надасць беларусам прававую пэўнасць і надзейнасць, сацыяльныя льготы, будзе лягчэй адчапіцца ад расійскіх міліцыянтаў. Да таго ж гэта не запатрабуе ад іх ніякіх высілак. Не трэба адмаўляцца ад беларускага грамадзянства ці вучыць рускую мову. Напісаў заяву і праз нейкі час атрымаў пашпарт.

Што ў выніку можа атрымацца? Ёсць падставы лічыць, што сітуацыя ў Расіі будзе пагаршацца як у палітычным плане, так і ў эканамічным. Многія з нашых суайчыннікаў страцяць у Расіі працу і пачнуць вяртацца ў Беларусь, як гэта было падчас крызісу 2015–2016 гадоў. Але яны ўжо будуць з расійскімі пашпартамі. Іх можа быць некалькі соцень тысяч чалавек. Паміж Беларуссю і Расіяй пачынаецца канфлікт, падобны на той, які здарыўся ў РФ з Украінай. Уявіць гэта не цяжка, бо беларуска-расійская канфрантацыя – справа перманентная. І Масква вырашыць націснуць на Мінск, выкарыстоўваючы сваіх грамадзян, напрыклад, стварыць нешта падобнае ДНР, ЛНР у беларускім варыянце. На чыім баку апынуцца людзі з двайным грамадзянствам? Гэта будзе сапраўдная, а не ўяўная «пятая калона».

Таму, я лічу, новы законапраект аб расійскім грамадзянстве ўяўляе для нас, беларусаў, рэальную небяспеку. Як яе нейтралізаваць? Рэцэпты простыя. Трэба развіваць сваю эканоміку, каб людзі дзеля выжывання не беглі шукаць шчасця за мяжу. Трэба фарміраваць нацыянальную ідэнтычнасць і беларускі патрыятызм.

Галаваломка ды яшчэ якая! Для ўсіх – і для тых, хто сёння пры ўладзе, і для тых, хто ў апазіцыі да яе, і для ўсяга грамадства. «Траянскі конь» на парозе...

РАЗБОРКИ

## Эдуард Ханок будет судиться с Анатолием Ярмоленко и Ядвигой Поплавской

*Известный композитор считает, что артисты некорректно отреагировали на запрет использовать его музыку к некоторым популярным песням. «Их высказывания порочат мою честь, достоинство и деловую репутацию, – говорит композитор. В ближайшее время он намерен подготовить иски в суд о защите чести, достоинства и деловой репутации. Ответчиками будут народные артисты* ***Анатолий Ярмоленко и Ядвига Поплавская.***

На днях Эдуард Ханок написал открытое письмо председателю ЗАО «Второй национальный телеканал» **Марату Маркову** по поводу программы «Песня года Беларуси» и презентации песни «А я лягу-прылягу» на новую музыку. Ханок считает, что новый вариант песни «А я лягу-прылягу» в настоящее время не имеет никаких шансов заменить оригинал.

*«В мировой практике, если песня имеет неофициальный статус народной, то «перераскрутить» ее с новой мелодией можно только лет через 30–40, уже с прицелом на*





*новое поколение»*, – убежден Эдуард Семенович. И напоминает Марату Маркову историю о российской певице Любови Успенской.

*«Надеюсь, Вы слышали о том, что Любовь Успенская не пожелала заключить т.н. «возмездный» договор» (законный) с Ильей Резником, который в свое время вытащил ее из ресторанов Нью-Йорка, дав ей хит «Кабриолет»! – говорит Ханок. – Ей, конечно же, было жалко для него денег, но совсем недавно она не без гордости сообщила, что поставила недешевый бронзовый памятник своей собачке! Еще более цинично в данном случае поступил г-н Ярмоленко. Дело в том, что после моего официального запрета на музыку песни «А я лягу-прылягу...» мне сначала позвонил Николай Гнатюк и попросил разрешения спеть эту песню на «Славянском базаре» (вероятно, на творческом вечере «Сяброў»), а затем позвонил директор ВИА «Сябры» с аналогичной просьбой для их сольного концерта в Молодечно. Получив отказы, мне позвонил сам Ярмоленко. Мы с ним встретились, и я предложил ему заключить со мной «возмездный» договор на сумму 2500 долларов, которая должна была пойти на строительство памятника воинам-десантникам в Колодищах. Он обещал подумать, а потому, обнадежив председателя Союза писателей Николая Чергинца, который лично занимается вопросами установки памятника, я стал ждать. Но, как оказалось, напрасно, ибо Ярмоленко, как и Любови Успенской, видно стало жалко денег. И если ей лучше было истратить их на памятник собачке, чем отдать тому, благодаря которому она стала личностью, то г-ну Ярмоленко, как оказалось, наоборот, лучше спеть на другую, возможно, «бесплатную» мелодию, чем «разориться» на памятник тем, кто внес свой посильный вклад в его будущую безбедную жизнь».*

«Народная Воля» поинтересовалась, как народный артист **Анатолий Ярмоленко** реагирует на выпады Эдуарда Ханка.

– *Я сразу сказал Эдуарду Ханку, что нужно идти в суд, а не гнать волну и устраивать провинциальные скандалы*, – говорит Анатолий Иванович. – *Зачем устраивать эти разборки в интернете, со страниц газет? Если у него есть чем крыть – пусть идет в суд. Будем разбираться. На мой взгляд, больше обсуждать здесь нечего.*

**Марина КОКТЫШ.**

